Установа адукацыі
“БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭХНАЛАГІЧНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ”

**Кафедра беларускай філалогіі**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Праграма, метадычныя ўказанні
і кантрольныя заданні
для студэнтаў спецыяльнасці
1-47 01 01 “Выдавецкая справа”
завочнай формы навучання**

Мінск 2013

УДК 82(476)(075.8)
ББК 811.161.3я73
Г51

Разгледжана і рэкамендавана рэдакцыйна-выдавецкай радай універсітэта

Складальнік
дацэнт кафедры беларускай мовы
кандыдат філалагічных навук
*Т. М. Федарцова*

Пад агульнай рэдакцыяй
загадчыка кафедры беларускай філалогіі
кандыдата філалагічных навук, дацэнта
*М. В. Труса*

Рэцэнзент
дацэнт кафедры рэдакцыйна-выдавецкіх тэхналогій БДТУ
кандыдат тэхнічных навук
*В. У. Токар*

По тэматычным плане выданняў вучэбна-метадычнай літаратуры ўніверсітэта на 2012 год. Паз. 188.

Для студэнтаў спецыяльнасці 1-47 01 01 "Выдавецкая справа" завочнай формы навучання.

# УВОДЗІНЫ

Сучасная канцэпцыя літаратурнай адукацыі накіравана на ажыццяўленне гуманізацыі працэсу навучання. Таму сёння асабліва актуалізуецца роля прыгожага слоўнага мастацтва ў фарміраванні духоўна багатай асобы, зарыентаванай на агульначалавечыя, гуманістычныя каштоўнасці. Выпускнікі спецыяльнасці “Выдавецкая справа” будуць мець дачыненне да лёсу шматлікіх літаратурных твораў, таму сёння само жыццё патрабуе добрай дасведчанасці ў такой галіне ведаў, як гісторыя беларускай літаратуры, арыентацыі густу на эстэтычныя вартасці слоўнага мастацтва і яго гуманізацыю.

Але студэнту-завочніку не проста разабрацца ў даволі складаным літаратурным працэсе. Бо беларуская літаратура мае больш за тысячагадовую гісторыю свайго існавання. Да пачатку ХХ стагоддзя яна развівалася ў кантэксце еўрапейскіх традыцый і зведала ўсе плыні ад Адраджэння да рэалізму, якія культываваліся на ўласнай, беларускай глебе і таму давалі непаўторныя ўзоры жанравастылявых асаблівасцяў.

Сацыялістычны рэалізм, па мерках якога наша літаратура “жыла” значны час, унёс свае адметнасці і зрабіў яе непаўторнай і непадобнай да іншых, бо толькі за апошні час з’явіліся такія паняцці, як “вернутая літаратура”, “літаратура беларускай эміграцыі”.

Канец ХХ стагоддзя адметны, асабліва ў паэзіі, актыўным сінтэзам класічнага і нетрадыцыйнага напрамкаў, спалучэннем рэалістычных і мадэрнісцкіх тэндэнцый у словатворчасці. Да таго ж значна пашырыўся яе тэматычны абсяг, які папоўніўся творамі пра фізічны і духоўны Чарнобыль і вайну ў Афганістане, новыя гістарычныя постаці і невядомыя раней гістарычныя падзеі і інш.

Сёння літаратура праз сістэму мастацкай вобразнасці грунтоўна вывучае глыбінныя законы жыцця, актыўна звяртаецца да перадачы падсвядомага ў псіхалогіі чалавека, таму галоўнымі яе прыметамі становяцца медытатыўнасць, асацыятыўная вобразнасць, акцэнтацыя ўвагі аўтараў на пошуках новай змястоўнасці і арыгінальных прыёмаў творчасці.

Мэта дапаможніка – звярнуць увагу студэнта на галоўныя аспекты развіцця гісторыі літаратуры, растлумачыць найбольш цяжкія тэмы для вывучэння, такія, напрыклад, як родавая і жанравая класі-

фікацыі твора і метрыка. Яны пададзены ў дапаможніку асобнымі раздзеламі.

Метадычныя рэкамендацыі і кантрольныя заданні па гісторыі беларускай літаратуры складзены ў адпаведнасці з праграмай, зацверджанай Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь і тыпавой праграмай БДТУ, з улікам патрабаванняў Агульнаадукацыйнага стандарта па цыкле сацыяльна-гуманітарных дысцыплін, зацверджанага Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

# ПРАГРАМА ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Уводзіны ў дысцыпліну.** Род, від, жанр літаратуры. Агульныя тыпы перыядызацыі беларускай літаратуры. З гісторыі вывучэння беларускай літаратуры. Вывучэнне беларускай літаратуры за мяжой.

**Вусная народна-паэтычная творчасць.** Узнікненне мастацтва слова. Міфатворчасць. Беларускі народны эпас: “Заклятая магіла волата”, “Дунай”, “Тураўскія саркафагі”. Адлюстраванне ў легендах і паданнях гісторыі народа. Вусна-паэтычная творчасць: абрадавая і неабрадавая. Маральна-этычныя вартасці беларускага фальклору.

**Станаўленне старажытнай беларускай літаратуры:** а) сінтэз двух светапоглядаў, дзвюх культур – паганства і хрысціянства; б) асаблівасці перакладной літаратуры і яе жанры; в) асаблівасці арыгінальнай літаратуры; г) тэматычны абсяг апокрыфаў, патрыстыкі, “жыціяў”.

**Летапісы.** Значэнне летапісаў у фарміраванні і развіцці нацыянальна-гістарычнай самасвядомасці трох братніх усходне-славянскіх народаў. “Аповесць мінулых гадоў” і яе рэдакцыі – Лаўрэнцьеўскі (1377 г.), Іпацьеўскі (XV ст.), Радзівілаўскі (XV ст.) летапісы.

**Літаратура эпохі сярэднявечча.** “Жыціе Ефрасінні Полацкай” як адзін з першых прыкладаў беларускай рэгіянальнай літаратуры. Сувязь твора з хрысціянскім веравучэннем. Сцвярджэнне ў творы ідэалаў хрысціянскага гуманізму.

Вобраз Е. Полацкай у сучаснай літаратуры: а) раман Т. Бондар “Спакуса”; б) раман В. Іпатавай “Прадыслава”; в) раман А. Асіпенкі “Святыя грэшнікі”.

**Творчасць Кірылы Тураўскага:** а) праблема чалавека ў творчасці пісьменніка; б) метафарычнасць мовы; в) алегарычнасць твораў; г) сімвалізм.

**Літаратура эпохі Адраджэння.** Біблія як старажытны помнік сусветнай літаратуры, энцыклапедыя чалавечага вопыту і мудрасці. Асноўныя этапы жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны, важнейшыя рысы рэнесансавага гуманізму ў яго творчасці (прадмовы да Біблii і кніг “Руф”, “Эсфір”, “Юдзіф”). Эстэтычныя ідэалы ў мастацкай творчасці і асветніцкая праграма першадрукара. Вобраз Скарыны ў беларускай літаратуры (М. Багдановіч “Кніга”, Л. Геніюш “Скарына”, “Над старымі друкаванымі кнігамі”, М. Арочка “Судны дзень Скарыны” і інш.).

Творчасць М. Гусоўскага як прадвесне рамантызму. Паэма “Песня пра зубра” і сцвярджэнне ідэй патрыятызму і грамадзянскага абавязку. Сімвалічнае значэнне вобраза зубра ў паэме. Увасабленне рэнесансавых ідэй у вобразе князя Вітаўта і высокая аўтарская ацэнка славутай постаці князя. Антычныя традыцыі ў паэме.

**Рэфармацыйная публіцыстыка.** Асаблівасці літаратурнага руху. Рэлігійна-маральная, царкоўна-дыдактычная, вучэбная і перакладная літаратура. Новыя жанры публіцыстыкі. Гуманістычныя тэндэнцыі ў творчасці Сымона Буднага, яго літаратурнае майстэрства і перакладчыцкі талент. Выдавецка-асветніцкая дзейнасць Васіля Цяпінскага. Асаблівасці паэмы Я. Вісліцкага “Пруская вайна”.

**Літаратура перыяду Контррэфармацыі.** Культурна-асветніцкі рух. Літаратура праваслаўных царкоўных брацтваў. Парадыйна-сатырычныя творы: “Пасланне апосталу Пятру”, “Прамова Мялешкі”, “Ліст да Абуховіча”. Царкоўна-палемічная публіцыстыка. Творчасць Мялеція Сматрыцкага і Афанасія Філіповіча. Гісторыка-мемуарная літаратура.

**Станаўленне старажытнай паэзіі.** Зараджэнне і развіццё сілабічнай паэзіі: а) паэзія Ф. Скарыны, С. Полацкага, А. Рымшы, С. Буднага; б) геральдычная паэзія (эпіграмы); в) жанры сямейна-абрадавай паэзіі (генеталіконы, матрыманіяльныя і функеральныя творы).

**Летапісы XIV–XVI стагоддзяў.** “Летапіс вялікіх князёў літоўскіх”, “Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г.”, “Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага”, “Хроніка Быхаўца”.

**Перакладная літаратура XV–XVII стагоддзяў.** Царкоўна-рэлігійная літаратура: апокрыфы (“Хаджэнне Багародзіцы па пакутах”, “Сон Багародзіцы”, “Слова пра дрэва святога крыжа”); аповесці (“Аповесць пра трох каралёў”, “Пакуты Хрыста”, “Сказанне пра Сівілу-прарочыцу”; жыціі (“Жыціі святых”). Свецкая перакладная літаратура (раманы “Троя”, “Александрыя”, “Аповесць пра Трышчана”).

**Літаратура другой паловы XVII–XVIII стагоддзя.** Літаратура перыяду барока. Развіццё і пашырэнне еўрапейскай сістэмы родаў і жанраў у беларускай літаратуры. Духоўная (сілабічная) і свецкая (сілаба-танічная) паэзія. Грамадска-філасофская, філасофская, песенна-інтымная і інтымная лірыка. Парадыйная проза. Школьная драматургія.

Сістэмы вершаскладання: метрычная, або антычная; сілабічная; сілаба-танічная; танічная. Паняцце метрыкі ў сілаба-танічнай сістэме.

**Літаратура эпохі Асветніцтва.** Асноўныя літаратурныя напрамкі: класіцызм і сентыменталізм. Паэзія: бурлескна-сатырычныя творы

("Таго дня вельмі слаўного" і інш.); героіка-патрыятычныя творы ("Песня беларускіх жаўнераў 1794 года" і інш.). Асаблівасці драматургіі другой паловы XVIII стагоддзя. Нараджэнне камедыі як жанру. Батлейка. Творчасць Каятана Марашэўскага і Міхаіла Цяцерскага.

**Беларуская літаратура XIX стагоддзя:** а) гістарычныя ўмовы ўзнікнення і развіцця новай беларускай літаратуры; б) беларуская літаратура XIX стагоддзя і вызваленчы рух; в) літаратурныя традыцыі філамацкага руху; г) асаблівасці беларускага рамантызму. Ян Чачот як пачынальнік новай беларускай літаратуры.

Выяўленне тэндэнцый адыходу ад класіцызму ў літаратурнай творчасці і захапленне народнай тэматыкай. Балады "Мышанка", "Свіцязь", "Узногі", цыкл вершаў "Песні старадаўніх ліцвінаў". Прычыны ўзнікнення і асаблівасці развіцця новай беларускай літаратуры. Працэс дэмакратызацыі галоўнага героя ў параўнанні з рускай, польскай і ўкраінскай літаратурамі.

Творчасць Адама Міцкевіча: традыцыі і наватарства. Ода "Рамантычнасць" як маніфест рамантызму. "Ода да маладосці" як выклік старому свету з яго эгаізмам і маўклівай згодай на існаванне зла і несправядлівасці. Фальклорны пачатак балад "Рыбка", "Свіцязянка", "Свіцязь", "Лілеі".

**Развіццё тэндэнцый адыходу ад класіцызму і захапленне народнай тэматыкай паэтамі-філаматамі.** Архетыпы, сімволіка, колер у творчасці Тамаша Зана (балады "Свіцязь-возера", "Цыганка", "Трыялет", "Песня з турмы ў Вільні"); Антоні Эдварда Адынца ("Песня філарэтаў", "Хохлік", "Уладзіславу Сыракомлю"); Міхаіла Рукевіча ("Хай звіняць аб чашу чашы"); Ануфрыя Петрашкевіча ("Роздум каля руінаў Гедымінавага замка", ідылія "Купала"); Аляксандра Ходзькі (балады "Маліны", "Гербы").

**Асаблівасці беларускай літаратуры 40-х гадоў XIX стагоддзя.** Творчасць Яна Баршчэўскага. Культываванне метамарфозы як мастацкага прыёму і ўвядзенне элементаў карнавалізацыі (балады "Курганы", "Дзве бярозы", "Русалка-спакусніца", "Роспач"). Фантастычна-філасофскія творы Яна Баршчэўскага і яго змаганне за чысціню "душы чалавека". "Душа не ў сваім целе", "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях". Вобраз Беларусі як самабытнага краю з адметнай духоўнай культурай і своеасаблівай народнай паэтыкай.

**Узмацненне рэалістычных тэндэнцый у літаратуры першай паловы XIX стагоддзя.** Ананімныя творы сярэдзіны XIX стагоддзя. Гутаркі як уласнабеларускі паэтычны жанр: ананімныя гутаркі

(“Гутарка Данілы са Сцяпанам”, “Панаманія”, “Вясна гола перапала”); гутаркі Вінцэся Каратынскага і Уладзіслава Сыракомлі. Чатыры вядучыя матывы ў ананімнай літаратуры: матыў асуджэння; наіўнай радасці; ідэалізацыі будучай волі; развянчання міфа аб неабходнасці пана для кіраўніцтва мужыком. Літаратурна-грамадскі рух 50–60-х гадоў. Творчасць Адэлі з Устроні (паэма “Мачыха”). Агляд творчасці Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Адама Кіркора, Уладзіслава Сыракомлі, Вінцэся Каратынскага і інш. Другі этап новай беларускай літаратуры. Творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. Ідэалізацыя сялянскага жыцця ў паэме “Гапон”. Фарс-вадэвіль “Пінская шляхта”. Дыдактычны змест сентыментальнай камедыі “Ідылія” (“Сялянка”). Традыцыі нацыянальнага фальклору і вобраз Навума Прыгаворкі. Зварот пісьменніка да мінуўшчыны (“Стаўроўскія дзяды” (2-я ч. “Вечарніцы”)). Сацыяльна-бытавыя і маральныя пытанні ў вершаванай аповесці “Купала” і баладзе “Травіца брат-сястрыца”; творчая апрацоўка абрадавых песняў.

**Асаблівасць літаратурнага працэсу другой паловы XIX стагоддзя.** Гуманістычныя ідэалы чалавека ў паэзіі Ф. Багушэвіча і сатырычныя вобразы прыгнятальнікаў народа ў вершах са зборнікаў “Дудка беларуская”, “Смык беларускі”. Значэнне прадмоў да абодвух зборнікаў для адраджэння духоўнай культуры беларусаў. Вершы “Мая дудка”, “Смык”, “Не цурайся”, “Бог няроўна дзеле”, “Дурны мужык як варона”, “Ахвяра”, “Гора”. Проза. Байкі.

Паэзія Янкі Лучыны і яе асаблівасці. Элементы псіхалагічнай індывідуалізацыі ў паэме “Паляўнічыя акварэлькі з Палесся”. Інтэлектуалізм у творах Янкі Лучыны.

**Новыя рысы беларускай літаратуры парэформеннага перыяду.** Прыход у літаратуру пісьменнікаў-дэмакратаў. Творчасць Адама Гурыновіча, Альгерда Абуховіча, Кандрата Лейкі, Фелікса Тапчэўскага, Марыі Косіч і адлюстраванне ў іх творчасці беларускага этнаграфічнага свету.

**Агульная характарыстыка беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя.** Уплыў рэвалюцыі 1905 года на адраджэнне беларускай літаратуры. Нацыянальная ідэя і тыпы вобразаў у беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя. Нашаніўскі перыяд як перыяд Рэнесансу беларускай літаратуры. Асноўныя заканамернасці літаратурнага працэсу. Асноўныя ідэі. Матывы. Вобразы. Стыль і метады. Станаўленне беларускай паэзіі, прозы, драматургіі на пачатку XX стагоддзя. Сакралізацыя Радзімы ў творчасці М. Багдановіча, А. Гаруна, Я. Купалы, Я. Коласа. Станаўленне беларускага апавядання (Я. Колас, Цётка (Алаіза Пашкевіч), М. Гарэцкі, Ядвігін Ш., А. Гарун, З. Бядуля).

**Станаўленне беларускай драматургіі першай паловы XX стагоддзя.** Традыцыі і наватарства драматургіі. Творчасць Каруся Каганца, Уладзіслава Галубка, Янкі Купалы, Францішка Аляхновіча. Паняцце "новая драма". Адлюстраванне нацыянальнай ідэі ў драматургіі Янкі Купалы ("Паўлінка", "Тутэйшыя").

**Жанрава-стылявыя асаблівасці творчасці Максіма Багдановіча.** Традыцыі і наватарства. Матывы стварэння цвёрдых жанравых формаў. Асаблівасці санетаў, трыялетаў, верлібра, танкі, рандо, рубаі і іншых класічных вершаваных формаў М. Багдановіча ў параўнанні з цвёрдымі жанравымі формамі Я. Сіпакова, А. Звонака, М. Танка, Н. Гілевіча, З. Марозава, А. Сербантовіча, Я. Янішчыц, Р. Барадуліна, М. Кавыля, А. Салаўя, Я. Золака, Р. Крушыны і інш.

**Асаблівасці беларускай літаратуры 20-х гадоў XX стагоддзя.** Літаратурныя аб'яднанні: "Маладняк", "Полымя", "Узвышша", "Мінскі перавал", "Звенья", "Пробліск", "Беларуская літаратурна-мастацкая камуна", БелАПП. Развіццё крытыкі і літаратуразнаўства ў 20–30-я гады. Дзейнасць М. Гарэцкага, Я. Барычэўскага, У. Дубоўкі, С. Некрашэвіча, Ц. Гартнага і іншых літаратуразнаўцаў.

**Станаўленне сацрэалізму.** Асаблівасці рэалізму ў беларускай і сусветнай літаратурах XX стагоддзя. Сацрэалізм. Канцэпцыя асобы ў літаратуры. Тэорыя бесканфліктнасці. Адмаўленне літаратурнаму герою ў свабодзе самавыяўлення. Наватарства і традыцыі.

**Паэзія 20–30-х гадоў.** Авангардысцкая паэтыка Міхася Чарота. Паэтычны зборнік "Завіруха" (1922), паэма "Босыя на вогнішчы", (1922), "Беларусь лапцюжная" (1924) як "класіка авангарда" пралетарска-рэвалюцыйнай дактрыны ў мастацтве. Урбаністычная тэма ў паэзіі А. Александровіча. Паэма З. Бядулі "Зачараваны край". Алегарычная карціна гістарычнага шляху Беларусі. Асаблівасці паэмы Я. Коласа "Новая зямля" і нізкі вершаў 1921 года са зборніка "Водгулле" ("Цені-страхі", "Звон шыбаў", "Родныя малюнкі", "Покліч", "Беларускаму люду", "У палёх Беларусі". Творчасць Я. Пушчы. Паэма "Цень Консула" як выклік таталітарызму. Нацыянальная ідэя ў цыкле вершаў "Лісты да сабакі" і "Лісты ад сабакі". Авалоданне прынцыпамі мадэрнісцкага мастацтва (найперш сімвалісцкага) Я. Пушчам у 20-я гады XX стагоддзя (зборнік "Песні на руінах", цыкл вершаў "Асеннія песні"). Канцэпцыя беларускага шляху ў творчасці У. Дубоўкі (паэмы "Штурмуйце будучыні аванпосты!"). Праблема мастацтва ў тагачасным грамадстве (паэма "І пурпуровых ветразей узвівы"). Выхаванне высокай духоўнасці ў чалавеку праз мастацтва (паэма "Кругі").

Нацыянальная ідэя і тэма духоўнасці ў творах Я. Купалы 1918–1922 гадоў.

**Проза.** Развіццё беларускага апавядання: а) асэнсаванне мінуўшчыны (М. Гарэцкі “Тамашы”, “Досвітак”, “Злосць”, “Памылка”, “Дурны настаўнік”, Ц. Гартны “На руінах”); б) першасны паказ вобразаў чырвонаармейца і камуніста (Ц. Гартны “За свабоду” (1918), “Загадзе” (1920)), рабочага чалавека (М. Лынькоў “Андрэй Лятун”); в) гуманістычная праблематыка (Я. Колас “Сяргей Карага”, “Крывавы вір”, “Дачакаўся”); г) філасофскае асэнсаванне чалавечага лёсу (Л. Калюга “Трахім з пагулянкі”, “Лук’ян – капераціўскі сабака”, “Валачашчай натуры чалавек”); д) хрысціянскія пачуцці справядлівасці, чуласці, міласэрнасці і любові (К. Чорны “Парфір Кіяцкі”, “Пачуцці”, “Ноч пры дарозе”, “Буланы”, “Хвоі гавораць”).

**Станаўленне і развіццё беларускага рамана і аповесці.** Пафас і тэматычны абсяг. Жанрава-стылявыя асаблівасці. Раман А. Мрыя “Запіскі Самсона Самасуя” ў кантэксце беларускай і еўрапейскай сатырычнай прозы. Параўнальная характарыстыка Самсона Самасуя і Швейка з рамана Я. Гашака “Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветную вайну”, герояў М. Булгакава, М. Зошчанкі, Ільфа і Пятрова, Дубадзела з “Палескай хронікі” І. Мележа, Гарлахвацкага з камедыі “Хто смяецца апошнім” К. Крапівы.

**Сацыяльныя і псіхалагічныя праблемы калектывізацыі** ў творчасці П. Галавача і М. Зарэцкага. Асаблівасці аповесці П. Галавача “Спалох на загонах”. Асноўная праблема рамана М. Зарэцкага “Вязьмо”. Адносіны аўтараў да калектывізацыі. Параўнальная характарыстыка вобразаў Галілея (Ахрэма Пунціка) з вобразам Шчукара з рамана М. Шолахава “Паднятая цаліна” і вобразам дзеда Цыбулькі з п’есы А. Макаёнка “Таблетка пад язык”. Роля вобраза Галілея ў прадбачанні аўтарам будучыні. Праблема гуманізму і “пацяробаўшчына” як агульная з’ява калектывізацыі. Паняцце тэмы і праблемы літаратурнага твора.

**Літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны.** К. Чорны і яго роля ў развіцці эпічнага і філасофскага пачатку, псіхалагічная заглыбленасць у раманах “Пошукі будучыні” і “Млечны Шлях”. Архетыпы і сімволіка ў эпічных творах пісьменніка. Элементы карнавалізацыі. Паэтызацыя хараства беларускай душы. Аўтарскі аналіз сістэмы духоўных каштоўнасцяў.

**Пераасэнсаванне ваеннай тэматыкі пісьменнікамі другой паловы XX стагоддзя.** Творы І. Мележа, В. Быкава, А. Адамчыка, І. Навуменкі, Б. Сачанкі, В. Казько, А. Макаёнка, М. Матукоўскага, А. Куляшова, Максіма Танка, П. Панчанкі, Н. Гілевіча і інш.

**Раман другой паловы XX стагоддзя.** Жанрава-стылявая разнастайнасць беларускага рамана. Узбагачэнне новымі тэмамі. Развіццё гістарычнай тэматыкі ў творчасці У. Караткевіча, В. Адамчыка, В. Іпатавай, У. Арлова, А. Пашкевіча і інш. Паняцце экзістэнцыялізму.

Экзістэнцыялізм у беларускай літаратуры (паводле творчасці В. Быкава). Праблема лёсу бацькаўшчыны і яе вырашэнне ў рамане "Птушкі і гнёзды" Я. Брыля. Паказ сацыяльных і маральных канфліктаў праз пастаноўку экалагічных пытанняў у эпічных творах І. Пташнікава, А. Кудраўца, В. Казько, А. Жука і інш.

**Паняцце сатыры.** Станаўленне сатыры як жанру ў беларускай літаратуры. Станаўленне сатырычнага апавядання ў сярэдзіне 20-х гадоў (Я. Колас "Трыумф", "Драматург і лірычны паэт"; К. Чорны "Не пі густога чаю", "Мяшчане ў густой пары"; А. Мрый "Камандзір", "Гармонія ў ружовым", "Няпросты чалавек"; Л. Калюга "Краўцы і чаляднікі"; К. Крапіва "Недарэчная штука", "Вось тут і пішы").

**Жанравая разнастайнасць сатырычных вершаў.** Развіццё жанру байкі ў беларускай літаратуры (А. Абуховіч, Янка Купала, К. Крапіва, Э. Валасевіч і інш.). Асаблівасці сатыры Р. Барадуліна, Н. Гілевіча і інш. Іронія, гумар, сатыра, сарказм у вершах П. Панчанкі.

**Паэзія другой паловы XX стагоддзя.** Зварот да агульначалавечых праблем. Наватарства А. Куляшова, А. Разанава, М. Танка, А. Звонака, А. Сіпакова, Э. Акуліна і інш. Ідэйна-эстэтычная шматграннасць сучаснай паэзіі. Грамадзянска-публіцыстычная і патрыятычная лірыка. Медытацыйная лірыка. Пейзажная лірыка. Інтэлектуальная паэзія і яе жанры. Увядзенне ў абсяг паэзіі тэмы Чарнобыля. Традыцыі і наватарства. Мадэрнізм і постмадэрнізм у сучаснай паэзіі. Усталяванне новага, універсальнага стылю ў сучаснай паэзіі.

**Беларуская драматургія другой паловы XX стагоддзя.** Творчасць А. Макаёнка ("Трыбунал", "Лявоніха на арбіце", "Зацюканы апостал"). Творчасць М. Матукоўскага. Гістарычная тэма і яе ўвасабленне ў творчасці А. Дударава ("Князь Вітаўт", "Палачанка"). Драматургічныя творы А. Петрашкевіча.

**Сучасны стан літаратурнага працэсу.** Развіццё паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі. Грамадска-сацыяльныя абставіны. Рэалістычныя і мадэрнісцкія тэндэнцыі. Рускія і замежныя кантакты. Рознастылёвасць прозы і паэзіі. Змястоўны і фармальны эксперымент. Дасягненні крытыкі.

# ЛІТАРАТУРА

**Падручнікі і дапаможнікі**


1. Адамовіч, Г. Я. З крыніц сусветнай літаратуры / Г. Я. Адамовіч. – Мінск: БелЭн., 1998.
2. Багдановіч, І. Э. Янка Купала і рамантызм / І. Э. Багдановіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1989.
3. Багдановіч, І. Э. Авангард і традыцыя / І. Э. Багдановіч. – Мінск: Беларуская навука, 2001.
4. Бельскі, А. І. Краса і смутак / А. І. Бельскі. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2000.
5. Бельскі, А. І. Сучасная беларуская літаратура (80–90-я гг.) / А. І. Бельскі. – Мінск: Народная асвета, 1997.
6. Гаранін, Л. Я. Нацыянальная ідэя ў беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя / Л. Я. Гаранін. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1996.
7. Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў: у 2 т. – Т. 1: Даўняя літаратура: XI – першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы; навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. – Мінск: Беларуская навука, 2006; Т. 2: Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы; навук. рэд. У. І. Мархель, В. А. Чамярыцкі. – Мінск: Беларуская навука, 2007.
8. Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т. / рэдкал.: У. В. Гніламёдаў [і інш.]. – Мінск: Беларуская навука, 1999–2003. – Т. 4.
9. Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд / пад рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. – Мінск: Вышэйшая школа, 1998.
10. Гісторыя беларускай літаратуры: дакастрычніцкі перыяд: у 2 т. / пад рэд. А. Лойкі. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1989.
11. Гісторыя беларускай літаратуры: XIX – пачатак XX ст. / І. Э. Багдановіч [і інш.]; пад агул. рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. – 2-е выд., дапрац. – Мінск: Вышэйшая школа, 1998.
12. Гісторыя беларускай літаратуры: XX ст. (20–50-я гады XX стагоддзя) / У. В. Гніламёдаў [і інш.]; пад агул. рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. – 2-е выд., дапрац. і дап. – Мінск: Вышэйшая школа, 2000.
13. Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: 1941–1985 / пад рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. – Мінск, 1982.

14. Гнiламёдаў, У. В. Янка Купала: Новы погляд / У. В. Гнiламёдаў. – Мiнск: Народная асвета, 1995.
15. Драздова, З. У. Творчасць А. Мрыя i Л. Калюгi / З. У. Драздова. – Мiнск: Беларуская навука, 1997.
16. Жураўлёў, В. П. Якуб Колас i паэтыка беларускага рамана / В. П. Жураўлёў. – Мiнск: Беларуская навука, 1991.
17. Зубараў, Л. Максiм Багдановiч / Л. Зубараў. – Мiнск: Вышэйшая школа, 1989.
18. Каваленка, В. А. Мiфапаэтычныя матывы ў беларускай лiтаратуры / В. А. Каваленка. – Мiнск: Навука i тэхнiка, 1981.
19. Кiслiцына, Г. М. Алесь Разанаў. Праблемы мастацкай свядомасцi / Г. М. Кiслiцына. – Мiнск: Беларуская навука, 1997.
20. Лойка, А. А. Старабеларуская лiтаратура / А. А. Лойка. – Мiнск: Вышэйшая школа, 2001.
21. Макмiлiн, А. Беларуская лiтаратура ў 50–60-я гады ХХ стагоддзя / А. Макмiлiн. – Мiнск: Беларускi кнiгазбор, 2001. – С. 39–43.
22. Малахов, Н. Я. Социалистический реализм и модернизм / Н. Я. Малахов. – М.: Искусство, 1970.
23. Мальдзiс, А. Жыццё i ўзнясенне Уладзiмiра Караткевiча. Партрэт пiсьменнiка i чалавека / А. Мальдзiс. – Мiнск: Навука i тэхнiка, 1990.
24. Марцiновiч, А. А. Шляхам праўды / А. А. Марцiновiч. – Мiнск: Народная асвета, 1994.
25. Мельнiкаў, А. А. Кiрыл, епiскап Тураўскi: Жыццё. Светапогляд. Спадчына / А. А. Мельнiкаў. – Мiнск: Беларуская навука, 1997.
26. Мiшчанчук, М. I. Беларуская лiтаратура ХХ стагоддзя / М. I. Мiшчанчук, I. С. Шпакоўскi. – Мiнск: Вышэйшая школа, 2001.
27. Мiшчанчук, М. I. Лiтаратура беларускага замежжа / М. I. Мiшчанчук. – Мiнск: БДПУ iмя Максiма Танка, 1999.
28. Мушынскi, М. I. Нескароны талент: Праўдзiвая гiсторыя жыцця i творчасцi Мiхася Зарэцкага / М. I. Мушынскi. – Мiнск: Мастацкая лiтаратура, 1991.
29. Навуменка, I. Я. Якуб Колас. Духоўны воблiк героя / I. Я. Навуменка. – 2-е выд., дап. i перапрац. – Мiнск: БДУ, 1981.
30. Парэцкi, Я. I. Сымон Будны / Я. I. Парэцкi. – Мiнск: БДУ, 1975.
31. Перкiн, Н. Шляхi развiцця беларускай савецкай лiтаратуры 20–30-х гадоў / Н. Перкiн. – Мiнск: Навука i тэхнiка, 1960.
32. Саверчанка, I. Старажытная паэзiя Беларусi XVI – першай паловы XVII стагоддзя / I. Саверчанка. – Мiнск: Вышэйшая школа, 1992.

33. Саннікаў, А. Сатырычны характар беларускіх камедый / А. Саннікаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1961.

34. Федарцова, Т. М. Асаблівасці літаратуры XIX стагоддзя / Т. М. Федарцова. – Мінск: БДТУ, 1999.

35. Федарцова, Т. М. Гісторыя сусветнай літаратуры. Класіцызм. Барока. Асветніцтва / Т. М. Федарцова. – Мінск: БДТУ, 2008.

36. Чыгрын, І. П. Проза “Маладняка” / І. П. Чыгрын. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1988.

37. Чыгрын, І. П. Проза “Узвышша” / І. П. Чыгрын. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1989.

38. Штэйнер, І. Ф. Беларуская балада / І. Ф. Штэйнер; рэд. М. М. Грынчык. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989.

39. Штэйнер, І. Ф. Варожаць балады вякоў / І. Ф. Штэйнер; навук. рэд. М. М. Грынчык. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993.

40. Яскевіч, А. Падзвіжнікі і іх святыні / А. Яскевіч. – Мінск: Полымя, 2001.

**Дадатковая літаратура**

1. Аристотель. Об искусстве поэзии / Аристотель. – М.: Гослитиздат, 1957.

2. Аристотель. Поэтика: в 4 т. / Аристотель. – М., 1983. – Т. 4.

3. Барычэўскі, Я. І. Паэтыка лірычных жанраў / Я. І. Барычэўскі; апрац. на ўзорах бел. літаратуры Ул. Дзяржынскі. – Мінск: ДВБ, 1927.

4. Барычэўскі, Я. І. Тэорыя санету / Я. І. Барычэўскі. – Менск: ЦБ “Маладняк”, 1927.

5. Гарадніцкі, Я. А. Думка і вобраз / Я. А. Гарадніцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1986.

6. Грынчык, М. М. Шляхі беларускага вершаскладання / М. М. Грынчык. – Мінск: БДУ, 1973.

7. Жирмунский, В. Композиция лирических произведений / В. Жирмунский. – Л., 1975.

8. Жураўлёў, В. П. Структура твора. Рух сюжэтна-кампазіцыйных форм / В. П. Жураўлёў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978.

9. Лазарук, М. А. Уводзіны ў літаратуразнаўства / М. А. Лазарук, А. Я. Ленсу. – Мінск: Вышэйшая школа, 1982.

10. Пяткевіч, А. М. Сюжэт. Кампазіцыя. Характар / А. М. Пяткевіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1981.

11. Рагойша, В. Тэорыя літаратуры ў тэрмінах / В. Рагойша. – Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 2001.
12. Ралько, І. Д. Беларускі верш / І. Д. Ралько. – Мінск: Вышэйшая школа, 1969.
13. Ралько, І. Д. Вершаскладанне / І. Д. Ралько. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977.
14. Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі: у 3 т. – Мінск: Беларуская навука, 1997–1999.
15. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры / склад. А. Ф. Коршунаў. – Мінск: Мін-ва асветы БССР, 1959.

**Даведкавая літаратура**

1. Квятковский, А. Поэтический словарь / А. Квятковский. – М.: Советская энциклопедия, 1966.
2. Лазарук, М. А. Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў / М. А. Лазарук, А. Я. Ленсу. – Мінск: Народная асвета, 1983.
3. Макарэвіч, А. А. Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік / А. А. Макарэвіч. – 2-е выд., дапрац. і дап. – Мінск: Вышэйшая школа, 1969.
4. Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. – Мінск: Вышэйшая школа, 1987.
5. Современный словарь-справочник по литературе / сост. и науч. ред. С. И. Корнилов. – М.: Олимп: ООО “Фирма «Изд-во АСТ»”, 1999.
6. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелСЭ імя П. Броўкі, 1984–1987. – Т. 5.

# МЕТАДЫЧНЫЯ ЎКАЗАННІ

Па курсе “Гісторыя беларускай літаратуры” студэнт-завочнік павінен выканаць адну кантрольную работу ў аб’ёме не меншым за вучнёўскі сшытак (12 лістоў). Метадычная распрацоўка кантрольных заданняў скіравана на паглыбленне ведаў па дадзеным прадмеце і ахоплівае асобныя пытанні тэорыі літаратуры (менавіта тыя, з якімі будучы рэдактар-выдавец можа непасрэдна сутыкнуцца на практыцы: род, від, жанр, метрыка, строфіка, паэтычны сінтаксіс, праблема і тэма твора і г. д.). Таму кожнае заданне складаецца з трох пытанняў: аднаго – па тэорыі і двух – па гісторыі беларускай літаратуры.

Адказ на першае і трэцяе пытанні можна рабіць больш сцісла, вылучыўшы толькі галоўныя аспекты, калі ўмова задання не патрабуе больш шырокага асвятлення пастаўленай праблемы.

Другое пытанне задання павінна афармляцца як міні-рэферат: мець уступ, асноўную частку, заключэнне. Ва ўступе можна падаваць кароткія звесткі пра аўтара твора, што аналізуецца, а таксама праводзіць невялікі экскурс вырашаемай праблемы. Пры афармленні работы спіс літаратуры і спасылкі на цытаты з твораў ці літаратуразнаўчых прац абавязковыя.

Будучы выдавец павінен творча аднесціся да выканання кантрольнага задання: выказаць свае думкі пры адказе на пастаўленыя пытанні, скарыстаць не толькі ўказаны спіс літаратуры, але ўключыць і новыя літаратуразнаўчыя крыніцы, змешчаныя ў часопісах “Роднае слова”, “Полымя”, штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва” і інш.

Калі студэнт паглыблена адказвае на адно з пытанняў кантрольнага задання, самастойна здзяйсняе спробу ўласнага навуковага пошуку, параўноўвае стан беларускай літаратуры з іншымі літаратурамі свету ці вызначае месца пэўнага твора ў слоўным мастацтве свету, ён можа (з дазволу выкладчыка) сцісла адказваць на іншыя пытанні задання.

Пры характарыстыцы пэўнага твора студэнт абавязкова павінен вызначыць яго **род**, **жанр** і **жанрава-стылявыя** асаблівасці.

Студэнт мае права ў межах вучэбнай праграмы прапанаваць уласную распрацоўку тэмы, якая папярэдне абавязкова павінна ўзгадняцца з выкладчыкам.

Заданні паміж студэнтамі групы размяркоўвае выкладчык на занятках установачнай сесіі.

***Правільнасць афармлення спісу літаратуры ўзгадняецца па апошніх нумарах часопіса “Роднае слова”.***

# КАНТРОЛЬНЫЯ ЗАДАННІ

**Заданне 1**

1. Дайце характарыстыку жанравай разнастайнасці перакладной старажытнай літаратуры.

2. У чым заключаецца сутнасць канцэптаў “Жыццё – Смерць” у творах пра вайну А. Куляшова і П. Панчанкі? (Творы на выбар.)

3. Прывядзіце выказванне Арыстоцеля пра падзел літаратуры на роды.

**Заданне 2**

1. Ахарактарызуйце вобраз Е. Полацкай паводле рамана “Спакуса” Т. Бондар ці рамана “Прадыслава” В. Іпатавай.

2. Пакажыце на прыкладзе рамана “Чорны замак Альшанскі” наватарства Караткевіча-раманіста?

3. Растлумачце, у чым заключаецца мастацкая функцыя партрэта ў літаратурным творы.

**Заданне 3**

1. Вызначце жанрава-стылявыя асаблівасці твораў К. Тураўскага.

2. Чаму І. Мележа называюць майстарам псіхалагічнага партрэта і партрэтнай дэталі? Дакажыце гэта на прыкладзе трылогіі “Палеская хроніка”.

3. Дайце азначэнне сюжэта і фабулы літаратурнага твора.

**Заданне 4**

1. Назавіце ідэйныя і стылявыя тэндэнцыі беларускага барока.

2. Вызначце ролю ўмоўных сітуацый у сюжэтна-кампазіцыйнай структуры камедый “Мілы чалавек”, “Брама неўміручасці” Кандрата Крапівы.

3. Што азначае прыём мантажу ў пабудове кампазіцыі твора?

**Заданне 5**

1. У чым заключаецца майстэрства Скарыны-пісьменніка?

2. Параўнайце жаночыя вобразы рамана “Вязьмо” М. Зарэцкага з жаночымі вобразамі аповесці “Спалох на загонах” П. Галавача і рамана “Заходнікі” Г. Далідовіча.

3. Ахарактарызуйце асноўныя сістэмы беларускага вершаскладання.

**Заданне 6**

1. Ахарактарызуйце асаблівасці старажытнай сямейна-абрадавай паэзіі.

2. Абгрунтуйце наяўнасць і мастацкую мэтазгоднасць рамантычнага ў паэме "Сымон-музыка" Я. Коласа.

3. Чым блізкія паміж сабой паняцці "тэма" і "матыў"?

**Заданне 7**

1. Вызначце сімвалізм паэмы "Песня пра зубра" М. Гусоўскага.

2. Ахарактарызуйце асаблівасці драматургічнай спадчыны Я. Купалы паводле п'ес "Тутэйшыя" і "Паўлінка".

3. Растлумачце паняцці "вечная тэма" і "вандроўны вобраз" (на прыкладах сусветнай і беларускай літаратуры).

**Заданне 8**

1. Дайце характарыстыку літаратурнай і перакладчыцкай дзейнасці Сымона Буднага. Адзначце, у чым праявіўся ўплыў С. Буднага на Вальтэра і Спінозу.

2. Вызначце тэму і праблемы рамана "Вязьмо" М. Зарэцкага.

3. У чым заключаецца спецыфіка мастацкага вобраза?

**Заданне 9**

1. Адзначце асаблівасці літаратуры перыяду Рэфармацыі.

2. У чым заключаюцца асаблівасці ваеннай прозы К. Чорнага (паводле раманаў "Млечны Шлях" і "Пошукі будучыні").

3. Назавіце асноўныя рытмічныя адзінкі верша.

**Заданне 10**

1. Адзначце асаблівасці літаратуры перыяду Контррэфармацыі.

2. Вызначце мастацка-стылявыя асаблівасці "Казак жыцця" Я. Коласа.

3. Назавіце віды кампазіцыі.

**Заданне 11**

1. Ахарактарызуйце асаблівасці беларускай літаратуры эпохі Асветніцтва.

2. Пакажыце скрыжаванне рэальна-бытавога і ўмоўна-фантастычнага планаў у паэме "Адвечная песня" Я. Купалы.

3. Дайце азначэнне цэзуры як літаратуразнаўчага тэрміна.

**Заданне 12**

1. Вызначце тэму, ідэю, пафас паэмы Я. Вісліцкага “Пруская вайна”.

2. Абгрунтуйце матыў беспрытульніцтва паводле твораў Я. Коласа (казкі “Хмарка” (1913), вершаў “Тучка” (1902–1905), “Хмары” (1907), “Хмаркі” (1908), “Хмары” (1910), “Хмарка” (1910)) і параўнайце яго з падобнай канцэпцыяй адзіноцтва чалавека, выказанай раней у вершах “Хмаркі” Ф. Багушэвіча і “Тучки” М. Лермантава.

3. Што такое троп? Вызначце функцыю тропаў у літаратурным творы.

**Заданне 13**

1. Ахарактарызуйце вядучыя жанры арыгінальнай літаратуры XI–XIII стагоддзяў.

2. Раскрыйце тэму страчанага дзяцінства паводле раманаў К. Чорнага “Пошукі будучыні” і “Млечны Шлях”.

3. У чым сутнасць вучэння Гегеля пра адзінства формы і зместу?

**Заданне 14**

1. Вызначце тэматычны падзел бурлескнай паэзіі эпохі Асветніцтва.

2. У чым і з дапамогай якіх мастацкіх сродкаў праяўляецца сувязь рамана “Запіскі Самсона Самасуя” А. Мрыя і рамана “Заходнікі” Г. Далідовіча?

3. Дайце прыклады двухстопных памераў верша.

**Заданне 15**

1. Вызначце асаблівасці драматургіі другой паловы XVIII стагоддзя.

2. Ахарактарызуйце вобразы Пацяроба (“Вязьмо” М. Зарэцкага), Дубадзела (“Палеская хроніка” І. Мележа), Кураглядава (“Заходнікі” Г. Далідовіча) і партыйных актывістаў з рамана “Паднятая цаліна” рускага пісьменніка М. Шолахава.

3. Дайце азначэнне дольніка як віду верша. Прывядзіце прыклады паводле сучаснай паэзіі.

**Заданне 16**

1. Назавіце асноўныя жанры “нізкага” барока ў беларускай літаратуры.

2. Ахарактарызуйце авангардысцкую паэтыку Міхася Чарота як “класіка авангарда” пралетарска-рэвалюцыйнай дактрыны ў мастацтве паводле паэтычнага зборніка “Завіруха” і паэмы “Босыя на вогнішчы”.

3. Прывядзіце прыклады трохстопных памераў верша.

**Заданне 17**

1. Ахарактарызуйце асаблівасці ранняга беларускага рамантызму як літаратурнай плыні.

2. Прааналізуйце жанравую разнастайнасць беларускага апавядання паводле творчасці Цёткі, Ядвігіна Ш., Я. Коласа, А. Гаруна.

3. У чым адрозненне тэм эпічнага і лірычнага твораў?

**Заданне 18**

1. Пакажыце асаблівасці "высокага" барока.

2. Як раскрываецца тэма сялянскай гістарычнай памяці ў апавяданнях М. Гарэцкага "Роднае карэнне" і "У лазні".

3. Дайце азначэнне рыфмы. Пакажыце яе ўплыў на вершаваныя творы сілаба-танічнай сістэмы.

**Заданне 19**

1. Вызначце асаблівасці старабеларускіх летапісаў XIV–XVI стагоддзяў.

2. Пакажыце традыцыі і наватарства драматургіі Францішка Аляхновіча. Растлумачце паняцце "новая драма".

3. Што такое дактылічная і гіпердактылічная рыфма?

**Заданне 20**

1. З дапамогай якіх сродкаў раскрываецца канцэпцыя асобы аўтара і героя ў рамантычных творах пачатку XIX стагоддзя?

2. Як вырашаюцца праблемы лёсу бацькаўшчыны ў рамане "Птушкі і гнёзды" Я. Брыля?

3. Што такое полісіндэтон і асіндэтон? Прывядзіце прыклады з сучаснай паэзіі ці прозы.

**Заданне 21**

1. Вызначце гістарычныя ўмовы ўзнікнення і развіцця новай беларускай літаратуры і пакажыце яе адрозненні ад старажытнай.

2. Раскрыйце сацыяльныя і псіхалагічныя праблемы калектывізацыі ў аповесці "Спалох на загонах" П. Галавача.

3. Назавіце сродкі выразнасці мовы мастацкага твора. Дайце іх прыклады паводле сучаснай літаратуры.

**Заданне 22**

1. Вызначце літаратурныя традыцыі філаматкага руху на прыкладзе творчасці Я. Чачота і А. Міцкевіча.

2. Ахарактарызуйце жаночыя вобразы паводле творчасці Максіма Багдановіча.

3. Дайце прыклад танічнага вершаскладання. Адзначце асноўныя рытмаўтваральныя элементы тонікі.

**Заданне 23**

1. Зрабіце параўнальную характарыстыку аднайменных балад “Свіцязь” А. Міцкевіча і Я. Чачота і балады “Свіцязь-возера” Т. Зана.

2. У чым заключаецца бездухоўнасць асобы паводле апавядання “Рускі” М. Гарэцкага?

3. Прывядзіце прыклады выкарыстання стылістычных фігур паэтычнага сінтаксісу ў літаратурных творах.

**Заданне 24**

1. Вызначце і ахарактарызуйце архетыпы, сімволіку, колер у ідыліі Ануфры Петрашкевіча “Купалле”, рамантычных баладах “Маліны” і “Гербы” Аляксандра Ходзькі.

2. З дапамогай якіх выяўленчых сродкаў У. Караткевіч рамантычна перастварае гісторыю роднага краю ў рамане “Дзікае паляванне караля Стаха”?

3. Дайце разгорнутую характарыстыку жанру элегіі. (Творы на выбар.)

**Заданне 25**

1. Адзначце, у чым заключаецца роднасць амбівалентнай вобразнасці твораў Я. Баршчэўскага і Э. Т. А. Гофмана (паводле “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях” Баршчэўскага і “Житейские воззрения кота Мурра” Гофмана).

2. Вызначце асаблівасці элегічных вершаў Я. Сіпакова паводле зборніка “Усміхніся мне”.

3. Дайце разгорнутую характарыстыку жанру оды. (Творы на выбар.)

**Заданне 26**

1. Вызначце элементы карнавалізацыі і дайце прыклады міфалагем у баладах “Дзве бярозы”, “Дзявочая крыніца”, “Курганы”, “Помста”, “Заросла возера” Я. Баршчэўскага.

2. Пакажыце эвалюцыю творчай парадыгмы Пімена Панчанкі 1976–1977 гадоў. Апішыце гісторыю выдання зборнікаў “Крык сойкі” (1976) і “Вячэрні цягнік” (1977).

3. Дайце паняцце трыялета як цвёрдай жанравай формы паводле творчасці М. Багдановіча, Я. Сіпакова, Ю. Голуба ці іншых аўтараў.

**Заданне 27**

1. Адзначце патрыятычныя народна-беларускія матывы і настроі ў творчасці У. Сыракомлі. (Творы на выбар.)

2. Прааналізуйце эксперыментальныя пошукі З. Бядулі па творчасці 1909–1913 гадоў.

3. Дайце паняцце санета як цвёрдай жанравай формы паводле творчасці М. Багдановіча, Я. Сіпакова, А. Звонака, Р. Барадуліна ці іншых аўтараў.

**Заданне 28**

1. Адлюструйце тэму народнага жыцця ў творчасці У. Каратынскага паводле паэмы “Таміла” і “гутарак”.

2. Ахарактарызуйце экзістэнцыялізм як выключную з’яву ў творчасці В. Быкава. (Творы на выбар.)

3. Вызначце мастацкія задачы і функцыі паэтычнага сінтаксісу.

**Заданне 29**

1. Вызначце інтэлектуалізм у творчасці Я. Лучыны паводле паэмы “Паляўнічыя акварэлькі з Палесся” і верша “З гісторыі жыцця і песні”.

2. Ахарактарызуйце медытацыйную лірыку М. Танка па зборніку вершаў “ERRATA”.

3. Дайце разгорнутую характарыстыку жанру байкі. (Творы на выбар.)

**Заданне 30**

1. Пакажыце традыцыі нацыянальнага фальклору праз вобраз Навума Прыгаворкі з твора “Ідылія” В. Дуніна-Марцінкевіча.

2. Вызначце асаблівасці паэмы “Цень Консула”, вершаў “Лісты да сабакі”, “Лісты ад сабакі” Я. Пушчы.

3. Дайце характарыстыку страфы як літаратуразнаўчага тэрміна.

# ПЫТАННІ ДА ЭКЗАМЕНУ ПА “ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ”

1. Вобраз Навума Прыгаворкі ў камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча “Ідылія”.
2. Тэма калектывізацыі ў рамане П. Галавача “Спалох на загонах”.
3. Творчасць Максіма Багдановіча (фальклорны пачатак творчасці; стварэнне цвёрдых жанравых формаў).
4. Нацыянальная ідэя ў апавяданнях Я. Коласа.
5. Фарміраванне творчага крэда беларускіх паэтаў-рамантыкаў (верш “Рамантычнасць”).
6. Беларуская літаратура эпохі Адраджэння.
7. Элементы карнавалізацыі у творчасці беларускіх рамантыкаў (Я. Чачот, А. Міцкевіч, Я. Баршчэўскі).
8. Асаблівасці смехавай стыхіі ў п’есах “Паўлінка” і “Прымакі” ў Я. Купалы.
9. Агульная характарыстыка літаратуры эпохі Асветніцтва.
10. Станаўленне беларускай паэзіі (Ф. Скарына, А. Рымша, С. Полацкі).
11. Развіццё нацыянальнай ідэі ў творчасці Ф. Багушэвіча (прадмова да зборніка “Дудка беларуская”, “Смык беларускі”, верш “Хрэсбіны Мацюка”).
12. Станаўленне беларускай драматургіі. Творчасць К. Марашэўскага.
13. Метафарычнасць, сімвалізм і алегарычнасць у творчасці К. Тураўскага.
14. Адлюстраванне нацыянальнай ідэі ў творчасці М. Гарэцкага.
15. Творчасць К. Чорнага. Асаблівасці рамана “Млечны шлях”, “Пошукі будучыні”.
16. Творчасць Я. Купалы 1918–1922 гг.
17. Асаблівасці жанру балады ў творчасці беларускіх рамантыкаў. Балады “Рыбка”, “Лілеі” А. Міцкевіча; “Цыганка” Т. Зана; “Мышанка” Я. Чачота.
18. Вобраз Е. Полацкай у сучаснай літаратуры.
19. Паэзія другой паловы XX ст. Творчасць Я. Сіпакова, А. Разанава, Н. Гілевіча.
20. Вобраз пана Літальскага з п’есы “Сялянка” В. Дуніна-Марцінкевіча як разнавіднасць еўрапейскага тыпажу.

21. Агульная характарыстыка беларускай літаратуры эпохі Асветніцтва.

22. Фальклорныя традыцыі ў творчасці Ядвігіна Ш.

23. Старажытная паэзія (геральдычная і сямейна-абрадавая).

24. Праблемы духоўнасці ў творчасці Я. Баршчэўскага (“Плачка”, “Валасы, якія крычаць на галаве”, “Ваўкалак”).

25. Роля газеты “Наша Ніва” ў станаўленні беларускай літаратуры.

26. Параўнаўчая характарыстыка аднайменных балад “Свіцязь” Я. Чачота і А. Міцкевіча і балады “Свіцязь-возера” Т. Зана.

27. Тэма паэта і паэзіі ў творчасці У. Дубоўкі (паэма ”Кругі” і “Парпуровых ветразяў узвівы”, “Штурмуйце будучыні аванпосты”).

28. Станаўленне беларускага апавядання пачатку XX ст.

29. Сакралізацыя Радзімы ў творчасці паэтаў-рамантыкаў.

30. Апавяданні “Рускі” М. Гарэцкага і тэма бездухоўнасці асобы.

31. Гістарычна-прыгодніцкая проза У. Караткевіча.

32. Жыццё і творчасць Я. Лучыны. Інтэлектуалізм яго твораў.

33. Драматургія 60–70 гг. XX ст. “Зацюканы апостал” А. Макаёнка.

34. Апавяданні М. Гарэцкага “У лазні”, “Роднае карэнне”. Тэма асветы сялянства.

35. Жанрава-стылявыя асаблівасці сатырычнага рамана А. Мрыя “Запіскі Самсона Самасуя”.

36. Літаратурныя аб’яднанні і плыні 20–30 гг. XX ст.

37. Медытатыўная лірыка М. Танка. Верлібры. Зборнік вершаў “ERRATA”.

38. Стварэнне М. Багдановічам і Я. Купалай жанравай разнастайнасці беларускай паэзіі.

39. Патрыстыка і яе жанры (павучэнне, пропаведзь). Жыцці. Хаджэнні.

40. Агульная характарыстыка беларускай літаратуры перыяду Барока.

41. Жанрава-стылявыя асаблівасці травесційнай літаратуры (“Энеіда навыварат”, “Тарас на Парнасе”).

42. Традыцыі і наватарства ў паэзіі А. Куляшова.

43. Асаблівасці драматургіі А. Макаёнка, К. Крапівы, А. Дударава.

44. Творчасць Цёткі. Фальклорныя асаблівасці ў апавяданні “Прысяга над крывавымі разорамі”.

45. Творчасць Я. Пушчы. Нацыянальная ідэя ў паэме “Цень Консула”, вершах “Лісты да сабакі”, “Лісты ад сабакі” і інш.

46. Станаўленне бытавога апавядання (З. Бядуля).

47. Асаблівасці рамана М. Зарэцкага “Вязьмо”.

48. Алегарычнасць у “Казках жыцця” Я. Коласа.

49. Вобраз М. Зносака ў трагікамедыі Я. Купалы “Тутэйшыя”.

50. Літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны і адлюстраванне тэмы вайны ў пасляваеннай прозе.

# РОДЫ, ВІДЫ, ЖАНРЫ, ЖАНРАВАЯ РАЗНАВІДНАСЦЬ, ВЕРШАВАНАЯ ФОРМА

***Роды мастацкай літаратуры.*** Яшчэ ў часы антычнасці старажытныя філосафы заўважылі, што пераствараць рэчаіснасць у мастацкія вобразы можна трыма спосабамі: апавядальным (эпас), пры дапамозе поўнага мастацкага пераўвасаблення (драма) і ўпадабнення рэчаіснасці сабе самому, аўтару (лірыка). Такім чынам, усю шматстайнасць мастацкай літаратуры прынята дзяліць на тры роды: **эпас**, **лірыку** і **драму**.

Эпас мае тры формы: *малую*, *сярэднюю* і *буйную*. Да малой адносяцца *апавяданне*, *навела*, *нарыс*, а ў фальклоры – *казка*, *быліна*, *паданне*. Да сярэдняй формы звычайна адносяць *аповесць*, а да буйной – *раман* і *раман-эпапею* (“Мінскі напрамак” І. Мележа).

Лірыка падзяляецца на наступныя разнавіднасці: *інтымную* (адлюстроўвае сяброўства і каханне), *грамадзянскага гучання*, *медытацыйную*, *пейзажную*.

Драма прадстаўлена *трагедыяй*, *трагікамедыяй*, *аптымістычнай трагедыяй*, *камедыяй*, *вадэвілем* (камедыяй на лёгкія, бытавыя тэмы), *фарсам* (камедыя гратэскавага характару).

Эпічныя, драматычныя і лірычныя творы адрозніваюцца не толькі суадносінамі аб’ектыўнага і суб’ектыўнага фактараў, але і, на гэтай аснове, структурай, кампазіцыяй і “наборам” слоўна-выяўленчых сродкаў. “Фармальныя фактары” вымушаюць выпрацоўваць пэўныя каноны і традыцыі. Некалі Платон зрабіў спробу надаць сваім сачыненням стройнасць пабудовы, паставіў фармальны фактар на адно з першых месцаў у вызначэнні спецыфікі родаў літаратуры. Канцэпцыя родаў старажытнага філосафа грунтавалася на пераводзе гэтай праблемы ў плоскасць мастацкай рэалізацыі спецыфічных формаў выказвання. У дыялогу “Дзяржава” сцвярджалася, што паэты дасягаюць мастацкага эфекту трыма спосабамі: або проста расказваюць, або расказваюць з дапамогай пераймання ці імітавання, або змешаным спосабам. Аповед, пабудаваны на перайманні, Платон і яго паслядоўнікі лічылі асновай з’яўлення трагедыі і камедыі, аповед ад імя асобы аўтара – лірыкі (дыфірамбы), а змешаны тып – эпічнай паэзіі. Падобнае азначэнне некалькі супярэчыць гегелеўскай сістэматызацыі, паводле якой змешанай сінтэтычнай формай лічыцца не эпас, а драма, але ў аснове сваёй адпавядае ёй. Гэтым азначэннем мы карыстаемся сёння, асабліва ў “прыкладным літаратуразнаўстве”.

Але менавіта Арыстоцель першы ўвёў ва ўжытак важную літаратуразнаўчую катэгорыю, паводле якой і ў нашы дні паспяхова класіфікуюцца літаратурныя творы, – катэгорыю родаў. “Паэтыка” Арыстоцеля застаецца адзіным навуковым трактатам антычнасці, у якім сістэматызуюцца веды па тэорыі літаратуры.

Роды літаратуры – гэта асноўныя вынікі развіцця змястоўных формаў мастацкай свядомасці, названыя Арыстоцелем “спосабамі пераймання”. Паводле канцэпцыі славутага філосафа, жыццё можна пераўвасабляць у мастацтва пры дапамозе гукаў, słоваў, фарбаў, мімікі, жэстаў і г. д., ствараць тым самым праўдападобныя характары людзей і “капіраваць” жыццёвыя сітуацыі, аднак галоўнае пытанне для кожнага мастака заключаецца не толькі ў тым, што пераймаць, але і ў тым, як гэта рабіць: “Менавіта пераймаць у адным і тым жа і адно і тое ж можна, з дапамогай аповеду пра падзею, як пра нешта асобнае ад сябе, як гэта робіць Гамер, або так, калі «пераказчык» падзеі застаецца сам сабой і не мяняе свайго твару, або паказваючы ўсіх, пра каго ідзе гаворка, як дзеючых і дзейных. Вось у такіх трох адрозненнях заключаецца ўсялякае перайманне, як мы сказалі ў самым пачатку, менавіта ў сродках <прадмеце> і спосабе” [2, с. 45–46].

Сапраўды, не кожны мастацкі твор можа лёгка і свабодна ўкласціся ў рамкі трох родаў літаратуры – эпасу, драмы і лірыкі. Прыналежнасць твора да таго ці іншага роду літаратуры ўяўляе сабой вынік своеасаблівай “селекцыі”, якая вельмі неабходная, паколькі роды літаратуры ў працэсе свайго станаўлення і развіцця прыпадабняюцца плыні, калі карыстацца спецыяльным тэрмінам, якая цячэ ў рухомых грунтах і таму пастаянна фарміруе сваё рэчышча. Народнае жыццё, гістарычныя лёсы, падзеі і паданні, канфлікты, грамадскія адносіны і сутыкненні, рост і духоўнае ўзбагачэнне асобы – такі шырокі змест пастаянна ўплывае на фарміраванне розных родаў літаратуры.

Спецыфічны змест кожнага з трох класічных літаратурных родаў гістарычна адліваўся ў пэўную змястоўную форму, якая павінна была адпавядаць законам гармоніі і патрабаванням жыццепадобнасці. Намаганні Арыстоцеля ўстанавіць агульнасць і адрозненне эпічнай паэзіі ад драмы з’яўляюцца зыходным пунктам адліку ў фарміраванні важных літаратуразнаўчых катэгорый. Прасочым за развіццём яго думкі: “Эпічная паэзія, за выключэннем толькі свайго важнага памеру, была падобная да трагедыі як перайманне сур’ёзнага; яна адрозніваецца ад трагедыі тым, што мае просты памер і ўяўляе сабой аповед, а акрамя таго, яны адрозніваюцца па аб’ёме: трагедыя імкнецца, па магчымасці,

змясціць сваё дзеянне ў кола аднаго дня або толькі крыху выйсці з гэтых межаў, а эпас не абмежаваны часам…” [2, с. 54].

Такім чынам, аснову паэтыкі Арыстоцель бачыў не ў знешніх фармальных стасунках або прыметах (вершаваная мова, большы ці меншы аб’ём твора), а ў своеасаблівай арганізацыі абранага для мастацкага адлюстравання матэрыялу (кампазіцыя твора, якая выяўляе развіццё сюжэта ці фабулы).

Адрозненне паміж літаратурнымі родамі актыўна вывучалася прадстаўнікамі нямецкай філасофіі і эстэтыкі эпохі рамантызму. Своеасаблівасць эпасу і драмы ўдакладнялася ў ліставанні І. В. Гётэ і Ф. Шылера, Ф. Шэлінг таксама выказаў свой уласны погляд на гэты конт. Ён сцвярджаў, што эпас варта суадносіць з неабходнасцю, лірыку – са свабодай, а драму – з супрацьборствам гэтых пачаткаў. Вучэнне Арыстоцеля творча развіў далей Гегель, які разумеў эпічную паэзію як чыста аб’ектыўную, лірычную – як цалкам суб’ектыўную; драму – як сінтэз аб’ектыўнага і суб’ектыўнага пачаткаў, быў прыхільнікам дыялектычнай ідэі аб развіцці жыцця па законе “трыяды” – ад тэзіса як зыходнага моманту развіцця да “антытэзіса” як яго супрацьлегласці і, далей, да іх сінтэзу, які можа стаць тэзісам наступнай трыяды. Гегелеўскай тэорыі літаратурных родаў паслядоўна прытрымліваўся В. Р. Бялінскі.

XX стагоддзе пакідае ў спадчыну нашчадкам добра распрацаваную тэорыю літаратурных родаў. Але час не стаіць на месцы, не спыняецца і развіццё слоўнага мастацтва. І таму сёння далёка не ўсе яго тэарэтыкі прытрымліваюцца арыстоцелеўскай ці гегелеўскай тэорыі падзелу літаратуры на тры роды. Узнікненне новага віду мастацтва – кінематографа дало жыццё кінадраматургіі, з развіццём тэлебачання ўзнікае тэледраматургія. Час няўмольна сцірае калісьці трывалыя межы паміж лірыкай і эпасам, лірыкай і драмай, таму сярод вучоных-літаратуразнаўцаў з’яўляецца ўсё больш прыхільнікаў тэорыі чатырох родаў літаратуры: трох класічных, традыцыйных і **ліра-эпасу**, які вызначыў, напрыклад, у апошніх сваіх працах вядомы вучоны-літаратуразнавец М. А. Лазарук. Мы таксама прытрымліваемся гэтага пункту гледжання, бо ліра-эпічныя жанры заявілі пра сябе асабліва актыўна ў XX стагоддзі. Да іх можна аднесці **паэмы** (такія вершаваныя творы і вершаваныя аповесці, як “Новая зямля” Я. Коласа, “Пан Тадэуш, або апошні наезд на Літву” А. Міцкевіча і інш.). Гэтыя творы не беспадстаўна называюць яшчэ раманамі ў вершах. Да ліра-эпасу можна аднесці **балады** і **байкі** як вершаваныя аповеды; першыя – гераічнага, а другія – іранічнага характару, **оды** і **элегіі**, напісаныя рытмізаванай прозай.

Новыя тэндэнцыі ў асвятленні праблемы літаратурных родаў грунтуюцца на так званай "псіхалагічнай" трактоўцы, калі эпас, лірыка і драма разглядаюцца як своеасаблівыя мастацкія трансфармацыі праяў псіхічнага жыцця (напрыклад, лірыка, драма і эпас разглядаюцца як рэалізацыя адпаведна пачуцця, волі і думкі ці ўспамінаў, намаганняў, уяўленняў). Іначай падыходзяць да вырашэння праблемы прыхільнікі лінгвістычнай тэорыі, якія роды паэзіі разглядаюць як адлюстраванне граматычнай катэгорыі часу (лірыка – цяперашні, эпас – мінулы, драма – будучы час); асобы (адпаведна – першая, другая, трэцяя); членаў сказа (дзейнік, выказнік, дапаўненне) і як пэўныя структурныя адзінкі мовы (лірыка – гук, эпас – слова, драма – сказ). Паняцце роду, такім чынам, асацыіруецца з мерай, складам і сувяззю лінгвааналітычных элементаў.

Род характарызуецца пэўнай аб'ёмнасцю твора (разгорнутасць эпасу нават у малых яго формах, абмежаваныя памеры драмы, сцісласць лірыкі), сістэмнасцю кампазіцыйна-моўных формаў (маналагічнасць лірыкі, дыялогавасць драмы, "змешанасць" эпасу, які ўключае ў сябе маналог, дыялог і іншыя формы паведамлення), спосабам "сашчаплення" частак (далучэнне адносна самастойных эпізодаў у эпасе, жорсткая сувязь сцэн у драме, адзінства лірычнага сюжэта ў лірыцы), тэмпам развіцця дзеяння ці перажывання і прыродай часу ў творы (запаволенасць эпасу, хуткае разгортванне будучага часу ў драме, аднамомантны цяперашні час у лірыцы). У эпасе і драме падзеі падаюцца як драматычная фабула, стан душы ў лірыцы складае сюжэт пачуццяў і перажыванняў. Родавыя прыметы прасочваюцца і ў своеасаблівых формах мовы, і ў спецыфічных прынцыпах праяў мастацкага часу, і ў спосабе кампазіцыйнай арганізацыі новастворанага матэрыялу, "іншабыцця ў слове".

Прамежкавай катэгорыяй паміж родам і жанрам, паводле меркаванняў асобных літаратуразнаўцаў, з'яўляецца від літаратуры. У паэтычным слоўніку В. П. Рагойшы выразна сказана: "Кожны літаратурны род дзеліцца на віды: эпас – на эпапею, раман, аповесць, апавяданне і інш., драма – на камедыю, трагедыю, уласна драму, лірыка – на вершы і песні" [10, с. 64].

***Віды***, паводле меркаванняў В. П. Рагойшы і іншых аўтараў, падзяляюцца на асобныя жанры і жанравыя разнавіднасці. Напрыклад, песні бываюць грамадзянскія, гістарычныя, любоўныя, рэкруцкія, каляндарна-абрадавыя, сямейна-бытавыя, духоўныя (псалмы), калыханкі і г. д. Як нам думаецца, паняцце *від* можна апусціць у жанрава-родавай

класіфікацыі літаратурных твораў і абысціся паняццямі “род – жанр – жанравая разнавіднасць”.

***Жанры*** – вялікая рэальнасць літаратуры. Гэта, бадай, адзін з самых стабільных паказчыкаў тых тэндэнцый, якія складваліся ў слоўнай творчасці стагоддзямі. “Жанры не з’яўляюцца відамі літаратурных родаў, таму што сутнасць жанру зусім іншая, чым сутнасць роду”, – канстатаваў Г. М. Паспелаў у сваёй працы “Тыпалогія літаратурных родаў і жанраў” і сцвярджаў далей: “...жанр – гэта не від якога-небудзь асобнага роду”, таму “жанравыя і родавыя ўласцівасці ляжаць у розных плоскасцях зместу твораў” і “дзяліць твор на роды і жанры можна толькі «перакрыжавана»”.

М. М. Бахцін указваў на тое, што ў класіфікацыі паэтычнага мастацтва “…асаблівае значэнне маюць жанры. У жанрах літаратурных і маўленчых на працягу стагоддзяў іх жыцця назапашваюцца формы бачання і асэнсавання пэўных праяў свету” [3, с. 148].

“Паняцце «жанр», – адзначае М. І. Мішчанчук, – дае магчымасць даследчыку сістэматызаваць, групаваць, класіфікаваць літаратурныя факты і з’явы, параўноўваць іх паміж сабой, адкрываць заканамернасці, уласцівыя слоўнаму мастацтву з даўніх часоў, праецыраваць гэтыя заканамернасці на сучаснасць” [9, с. 3].

Жанр – катэгорыя гістарычная і надіндывідуальная, бо канцэнтруе ў сабе вопыт майстроў розных эпох.

Разгледзім, як развівалася тэорыя жанраў. Першым на жанравую спецыфіку твораў звярнуў увагу Арыстоцель у “Паэтычным мастацтве”, у якім ён адзначыў змястоўную адметнасць жанраў трагедыі, камедыі і эпапеі.

Вядомы рымскі паэт эпохі прынцыпату Аўгуста Квінт Гарацый Флак напрыканцы свайго жыцця напісаў знакамітае “Пасланне да Пізонаў” (яшчэ мае назву “Навука паэзіі”), у якім закрануў пытанне адзінства формы і зместу паэтычнага твора. На яго думку, літаратар павінен пісаць зразумела і дакладна, улічваць патрабаванне стройнасці і цэласнасці зместу. Цэласнасць зместу і вызначае той ці іншы жанр, сярод якіх на першае месца паэт ставіць трагедыю, бо яна выконвае асноўныя задачы паэзіі – радаваць, хваляваць і павучаць гледача ці чытача.

Гегель у “Эстэтыцы” пісаў, што эпас мае адметныя “вядучыя” жанры: гераічны эпас і раман. На яго думку, гераічны эпас мае ў сваёй аснове нацыянальныя ці класавыя канфлікты, а раман – канфлікт паміж паэзіяй сэрца і прозай жыцця, а таксама можа быць абумоўлены “выпадковасцю знешніх абставінаў”.

Катэгорыя жанру разглядалася, тэарэтычна распрацоўвалася ў эпохі класіцызму і рамантызму. У першым выпадку тэарэтыкі і практыкі слоўнага мастацтва адстойвалі прынцыпы так званых “чыстых” жанраў, у другім – удакладнялі жанравую канцэпцыю, выпрацаваную класіцыстамі на аснове вучэння пра гармонію, стабільнасць, нязменнасць жанраў, у выніку чаго традыцыйны погляд разбураўся, назіралася парушэнне жанравых канонаў. Парушэнне жанравай гармоніі і чысціні “ўзаконіў” рэалізм. Гэта было звязана найперш з ускладненнем узаемаадносін асобы і грамадства, разбурэннем ілюзіі гарманічнай еднасці “субстанцыянальнага” і “суб’ектыўнага”.

У 60–70-я гады XX стагоддзя ўзрасла ўвага да праблемы гісторыі і тэорыі жанраў. Расійскія вучоныя М. М. Бахцін і Г. М. Паспелаў паказалі пераемнасць жанравага развіцця ў гістарычным працэсе.

Кожны жанр, паводле Бахціна, – тып дыялогавай арганізацыі, які мае сваю першааснову (мы б сказалі – “метааснову”) у “бытавых жанрах” і служыць быццам пасрэднікам паміж пісьменнікам і чытачом.

Канцэпцыю М. М. Бахціна падтрымалі ў 60-я гады аўтары трохтомнай “Тэорыі літаратуры” В. Кожынаў, В. Сквазнікоў, П. Паліеўскі, М. Гей і іншыя. Яны не толькі прасачылі эвалюцыю родаў, але і паглыбілі думку Бахціна пра тое, што жанры – гэта “закасцянелы змест”, які ўкладваецца ў рэчышча трох родаў літаратуры.

Г. М. Паспелаў вызначае чатыры групы жанраў – міфалагічныя, нацыянальна-гістарычныя, эталагічныя і рамантычныя, чым абвяргае назіранні і вывады В. Д. Сквазнікова пра атрафію ўласна жанравых прымет (тых, што размяжоўваюць жанры) у літаратуры другой паловы XX стагоддзя.

Такім чынам, падсумуем нашы назіранні па некаторых аспектах праблемы генезісу і эвалюцыі родаў, жанраў і іх класіфікацыі. Думаецца, што тут найбольшую рацыю маюць М. Бахцін, Г. Паспелаў і іх прыхільнікі. Аднак патрабуюць удакладнення асобныя вывады і назіранні даследчыкаў у сувязі з размовай пра цвёрдыя, традыцыйныя формы творчасці, што выявілася найперш у вершаскладанні.

У сучасным літаратуразнаўстве жанравая класіфікацыя грунтуецца не столькі на знешніх прыметах, колькі на глыбокіх унутраных прынцыпах адрознення твораў. Таму і прыжылося найменне “цвёрдая форма верша”. У “Паэтычным слоўніку” А. П. Вяткоўскага цвёрдая форма верша вызначаецца наступным чынам: “умоўны тэрмін, які ўсталяваўся за такімі вершамі страфічнай формы, як санет, рандо, трыялет, секстына вялікая і інш.” [5, с. 302].

В. П. Рагойша падтрымлівае назіранні рускага літаратуразнаўцы: "Цвёрдыя формы верша – віды верша, якія ўзніклі пераважна ў сярэдневяковай класічнай паэзіі (у асноўным – італьянскай, французскай, іспанскай), набылі інтэрнацыянальнае бытаванне і вызначаюцца пастаянствам free вершаванага памеру, рыфмоўкі, колькасці і размяшчэння вершаваных радкоў. Сюды адносяцца санет, трыялет, секстына, тэрцына, актава, рандо, рандэль, рытурнэль, глоса і г. д." [10, с. 379].

У развітых нацыянальных літаратурах (у тым ліку і беларускай) можна прасачыць, як цвёрдыя формы верша сузалежаць ад гістарычна абумоўленых, стабільных, традыцыйных жанраў – оды, элегіі, байкі – і ствараюць свае разнавіднасці (паводле разнавіднасці пафасу): элегічны трыялет, адычны трыялет, элегічны санет, адычны санет, маралістычны санет, іначай – эталагічны, нораваапісальны (санет-байка), маралістычны трыялет. Сінтэз асноўных адзнак жанру і цвёрдай вершаванай формы адбываецца па той прычыне, што такія жанры, як ода, элегія, байка, пераходзяць з аднаго гістарычнага часу ў другі, не губляючы сваёй асноўнай змястоўнасці. Менавіта праз гэтыя жанры і яшчэ баладу "прайшоў нязменны змест" кожнай гістарычнай эпохі, таму яны дамінавалі раней і дамінуюць зараз і называюцца традыцыйнымі ці сталымі. А пераходныя лірычныя жанры і цвёрдыя формы верша як бы лучацца з імі.

# МЕТРЫКА

**Метрыка** – гэта сэрца паэтыкі. Таму не толькі расійскія вучоныя, у прыватнасці Б. В. Тамашэўскі, В. М. Жырмунскі, А. П. Квяткоўскі і іншыя, надавалі гэтаму пытанню асаблівую ўвагу, але і айчынныя – М. Багдановіч, Я. Барычэўскі, М. А. Лазарук, А. Я. Ленсу, І. Д. Ралько, В. П. Рагойша. Менавіта яны сфармулявалі асноўныя палажэнні пра адрозненні верша ад прозы. Вядома ж, верш валодае ўнутранай мерай (метрам), а проза гэтым не валодае.

У паэзіі прынята вылучаць ***пяць*** асноўных памераў:

1) **харэй** – упарадкаванае чаргаванне двухскладовых груп з метрычна моцным першым складам. Схема: –′– / –′– / –′– / –′–/ –′–;

2) **ямб** – упарадкаванае чаргаванне двухскладовых груп з метрычна моцным другім складам. Схема: – –′/ – –′/ – –′/ – –′/ – –′;

3) **дактыль** – упарадкаванае чаргаванне трохскладовых груп з метрычна моцным першым складам. Схема: –′– – / –′– – / –′– – / –′– –;

4) **амфібрахій** – упарадкаванае чаргаванне трохскладовых груп з метрычна моцным другім складам. Схема: – –′– / – –′– / – –′– / – –′–;

5) **анапест** – упарадкаванае чаргаванне трохскладовых груп з метрычна моцным трэцім складам. Схема: – – –′/ – – –′/ – – –′/ – – –′.

Першыя два памеры – двухскладовыя (структурна складаюцца з двух складоў). Астатнія – трохскладовыя.

Але сёння вылучаюць яшчэ і змешаны тып ямбічнага і харэічнага памераў – **харыямб**.

***Двухстопныя памеры.*** Самым распаўсюджаным паэтычным памерам у беларускай версіфікацыі XX стагоддзя з'яўляецца ямб. Асабліва пяцістопны. Яго, напрыклад, упадабала санетыстыка і абвясціла для сябе класічным памерам. У спадчыне М. Багдановіча пяцістопным ямбам напісаны не толькі санеты, але і вершы "У старым садзе", "Ёсць гэткая японская забаўка", "Маркотна я чакаю. Для чаго ты", "Пасля радзін ты ўсё штодня марнееш", "Споўненае абяцанне" ("Праз радасны заліты светам бор"), "Ты ночкаю каляднай варажыла", "Раяль цалуе тонкая рука" і іншыя творы.

Пяцістопны ямб шырока выкарыстоўваецца ў вершаскладанні і сёння.

Вось як выглядае схема першага катрэна вянка вянкоў санетаў "Апакаліпсіс душы" Змітрака Марозава:

Вянок санетаў – летапіс дарог,
Занатаваны ў строгія каноны...
У кожнага паэта свой аблог,
Дзе ён шчыруе, мараю натхнёны [8, с. 6].

– –′ / – –′/ – –′/ – – / – –′
– – / – –′/ – –′/ – – / – –′/ –
– –′/ – – / – –′/ – –′/ – –′
– –′/ – –′/ – –′/ – – / – –′/ –

Чатырохстопным ямбам М. Багдановіч напісаў больш за трыццаць вершаў, сярод якіх трыялеты “Вечар” (“На небе месяц устаў зялёны”), “Нашай Ніве”, “Гутарка”, “Дзед”, “Завіруха” (“У бубны дахаў вецер б’е”), “Ізноў пабачыў я сялібы”, “Слуцкія ткачыхі” і інш.

Чатырохстопны ямб да спадобы і нашаму сучасніку Петрусю Макалю, таму што напісаныя ім вершы гучаць больш энергічна, бо ён перадае “дынаміку” развіцця пачуцця і настрою. Паэт скарыстаў гэты памер у “Асеннім санеце” – вершы-медытацыі пра часовае і вечнае ў жыцці прыроды:

Мой зрок прывабілі з акна,
Адзенне скінуўшы, таполі,
З зямлёй і небам у суполлі,
І вечнасць – доля іх адна [7, с. 7].

Схема чатырохстопнага ямба:

– –′/ – –′/ – –′/ – –′
– –′/ – –′/ – –′/ – –′/ –
– –′/ – –′/ – –′/ – –′/ –
– –′/ – –′/ – –′/ – –′

Каб стварыць элегічны настрой, надаць санетнаму радку роздумна-ўрачыстае гучанне, па-свойму падыходзіць шасцістопны ямб, які ўдала скарыстоўвалі М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Колас.

Уладзімір Жылка ўвёў шасцістопны ямб у “духоўны” санет “Сёмуха”. Гэты вершаваны памер гучыць больш павольна, набліжаецца да гекзаметра, якім былі напісаны “Іліяда” і “Адысея”:

Узрушыць як адзін пры свеце бліскавіцы.
Прыйдзі хутчэй! Я жду цябе, жаданы час.
Дай думам сёмушным і казкам дай здзяйсніцца [4, с. 37].

Схема шасцістопнага ямба выглядае наступным чынам:

– –′/ – –′/ – –′/ – –′/ – –′/ – –′/ –
– –′/ – –′/ – –′/ – –′/ – –′/ – –′
– –′/ – –′/ – –′/ – –′/ – –′/ – –′/ –

Шасцістопным ямбам напісана “Актава” (“Як моцны рэактыў, каторы выклікае...”) М. Багдановіча. Возьмем за ўзор тры сярэднія радкі:

Зялёны, быццам лёд, халодны небасхіл.
І праз імглу яго патроху праступае
Маленькіх, мілых зор дрыжачы, срэбны пыл.

Іх схема наступная:

– –′/ – –′/ – –′/ – –′ / – –′/ – –′
– –′/ – –′/ – –′/ – –′ / – –′/ – –′/ –
– –′/ – –′/ – –′/ – –′ / – –′/ – –′

Янка Купала ў адзінаццатым раздзеле паэмы “Яна і я” ўжыў нават сямістопны ямб.

Даволі распаўсюджаныя ў беларускім вершаскладанні і харэічныя памеры. Трохстопны памер ужыты М. Багдановічам у вершах “Не бядуй, што хмары”, “Малюнак мора”, “Цяжкая дарога”. Але найбольш у спадчыне нашага класіка харэічных вершаў чатырох-, пяці- і шасцістопных. Пяцістопным харэем напісаны санет Юрася Свіркі “Тры разы збіраецца радня”, у якім паэт расказвае пра народныя сямейныя традыцыі беларусаў: вяселле – радзіны – смерць – тры асноўныя, этапныя перыяды жыцця чалавека, што асабліва шануюцца ў народзе:

Тры разы збіраецца радня:
Першы раз, калі вяселлю “горка”,
І не сніцца хаце цішыня –
Мілае застолле і гаворка [11, с. 9].

Рытмічная схема верша:

–′– / –′– / –′ – / – – / –′
–′– / –′– / –′– / –′– / –′–
–′– / –′– / –′ – / –′– / –′
–′– / –′– / –′ – / –′– / –′–

Шасцістопным харэем з цэзурай напісаны верш П. Броўкі “Дзве душы”, у якім вершарады – другі і трэці – графічна падзелены на два радкі кожны.

Сэнсавая канва твора, змешчаная ў дакладныя варункі формы, патрабуе ад творцы прыгожага мастацтва філіграннай працы над словам, над метрычнай асновай верша, але тэматычная разгорнутасць часта вымушае яго карыстацца шматскладовымі ці аднаскладовымі словамі ў пэўным рытмарадзе. Аднаскладовыя словы, што стаяць побач, утвараюць стапу з двух націскных складоў. Прывядзём схему падобнага вершарада, напісанага ямбічным памерам: –′ –′ / – –′/ – –′/ – – / – –′. Гэта – **спандэй**.

У асобныя творы часта ўплятаюцца шматскладовыя словы, таму стапа можа ўтварацца з двух ненаціскных складоў. Гэта – **пірыхій**. Тады схема радка будзе наступная: – – / – –′/ – –′/ – –′/ – –′.

***Трохстопныя памеры.*** Дактылічны памер менш ужывальны ў беларускай версіфікацыі. Гэта можна прасачыць і па творчасці М. Багдановіча. Трохстопным дактылем напісаны Максімам Кніжнікам вершы “Срэбныя змеі”, “Шчасцем яна аж да краю”, чатырохстопным – “Плакала лета, зямлю пакідаючы”, “Золата, золата падае з неба”, пяцістопным – “Ноч”, “Прыйдзецца, бачу, пазайздрыць бяздольнаму Марку”. А славуты раманс “Зорка Венера” пабудаваны на чаргаванні трох чатырохстопных дактылічных радкоў і аднаго трохстопнага (Д4443).

Прыклады амфібрахія мы зноў можам прывесці са спадчыны М. Багдановіча, хаця гэты памер складае толькі 5,96% усёй паэтычнай спадчыны творцы. Гэта не намнога болей, чым дактыль. Аднак трохстопным амфібрахіем напісаны вершы “Асенняй ночай”, “Бывае, вада перапоўніць”, “Лясун”, чатырохстопным – “Ужо зноў не спаткаюцца тыя гады”, “Астры”, пяцістопным – “За дахамі места памеркла нябёс пазалота”. Але да амфібрахія ахвотна звярталіся паэты другой паловы XX стагоддзя. Напрыклад, Максім Танк напісаў чатырохстопным амфібрахіем свой славуты верш “Родная мова”, а трохстопным – “Я гэта люблю…” і інш.

Анапест – самы ўжывальны з трохскладовых памераў. У творчасці Багдановіча ён складае 598 радкоў. І сёння анапест – не рэдкая з’ява. Іван Кірэйчык, напрыклад, у “Паляшуцкім санеце” ўжывае трохстопны анапест:

Мне сягоння ў пакой прынясла
Нацюрморцік даспелая восень,
Як гасцінец, што сябру прыносім
Для душы, на ўспамін, да стала [6, с. 24].

Схема гэтага памеру:

– – –′/ – – –′/ – – –′
– – –′/ – – –′/ – – –′/ –
– – –′/ – – –′/ – – –′/ –
– – –′/ – – –′/ – – –′

Чатырохстопны анапест нярэдка ўжывалі Ф. Багушэвіч (верш "У судзе"), М. Багдановіч ("Дзве песні", "Нашых дзедаў душылі абшары лясоў", "Мы гаворым удвух пры агні ў цішыне") і інш.

Многія аўтары, напрыклад В. Аколава, карыстаюцца змешаным (харыямбічным) памерам, часам у харэічны радок уключаюць адну ямбічную стапу, эксперыментуюць з дольнікам. Напрыклад, санет В. Аколавай "Ці каня не меў, ці дарог не знаў…" пабудаваны на чаргаванні чатырох доляў у першым радку з дзвюма – у другім:

Ці каня не меў, ці дарог не знаў,
Што зара – не ўстала? [1, с. 44].

Дольнік – від верша, які па рытмічных асаблівасцях блізкі да сілаба-танічнага і танічнага верша, уяўляе сабой як бы пераходную, прамежкавую паміж імі з'яву. Дольнік узмацняе ролю асноўных націскаў, якія разам з рознай колькасцю ненаціскных складоў (два або адзін) і ствараюць рытм.

# ЛІТАРАТУРА


1. Аколава, В. Случарыны: Кніга паэзіі / В. Аколава. – Мінск: Полымя, 1994. – С. 44.
2. Аристотель. Об искусстве поэзии / Аристотель. – М.: Гослитиздат, 1957. – С. 45–54.
3. Бахтин, М. М. Эстетика словесного творчества / М. М. Бахтин. – М.: Художественная литература, 1979. – С. 148.
4. Жылка, Ул. Выбраныя творы / Ул. Жылка; укладанне, прадм. і каментарыі М. Скоблы. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. – С. 37–103.
5. Квятковский, А. Поэтический словарь / А. Квятковский. – М.: Советская энциклопедия, 1966. – С. 301–302.
6. Кірэйчык, І. Паляшуцкі санет / І. Кірэйчык // Полымя. – 1992. – № 6. – С. 24.
7. Макаль, П. Асенні санет / П. Макаль // Полымя. – 1995. – № 3. – С. 7.
8. Марозаў, З. З. Апакаліпсіс душы: Вянок вянкоў санетаў / З. З. Марозаў. – Мінск: Веды, 1997. – С. 6.
9. Мішчанчук, М. І. Ёсць у паэта свой аблог цалінны: Жанравастылявая разнастайнасць сучаснай беларускай лірыкі / М. І. Мішчанчук. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – С. 3.
10. Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. – Мінск: Вышэйшая школа, 1987. – С. 64, 379.
11. Свірка, Ю. У зоне. Тры разы збіраецца радня / Ю. Свірка // Полымя. – 1996. – № 12. – С. 9.

# ЗМЕСТ

